# ВЕЧНЫ АГОНЬ ПРАЎДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

ца каля пражэктарных установак, затое ліхтарык у яго руках падобны на сонечны праменьчык, які самую звычайную жыццёвую з'яву можа паказаць у нейкім нечаканым душэўным святле. Для прыкладу возьмем тое ж самае апавяданне «Зорка на спражцы», якое Барыс Бур'ян асудзіў у сваім артыкуле за няпэўнасць аўтарскай пазіцыі і ўбачыў у ім сентыментальную расчуленасць. Справа ў тым, што герой гэтага апавядання — не той п'янаваты дзядзька Лапша, які «тры разы ўрадам адзначаны, а сам лапсаваўся ўшчэнт». Герой апавядання — душа малога Юркі, чыстая, празрыстая, даверлівая. Юрка пабег за дапамогай незнаёмаму дзядзьку, бо дзядзька, сказаўшы, што ў яго стралялі фашысты, лёг на зямлю. Для Юркі ён толькі што з бою. «Там... фашысты дзядзю пакрыўдзілі... Дзядзя харошы, а яны яго кулямі пастралялі! І ён ляжыць...»

Дарослыя толькі ўсміхаюцца на Юркаву ўзрушанасць. Яны ж ведаюць, што дзядзька Лапша проста п'яны, таму і лёг на зямлю. «Усё ясна, — сказаў дзядзя Толя. — ...А ты тут, Юрка, трывогу ўзняў». Але Юрку нічога не ясна. Ён ведае толькі адно, што «дзядзя той харошы. Ён партызан! І ён герой!..»

Не! Не кінуліся дарослыя на дапамогу чалавеку. Ім усё ясна. І мне, чытачу, таксама ясна, што самае горкае — гэта калі мы не ўмеем спачуваць гэтак жа шчыра і непасрэдна, калі не можам, кінуўшы ўсё, бегчы за паратункам для чалавека, як малы Юрка. І доўга яшчэ думаеш аб тым, што ж здарылася з дзядзькам Лапшой, чым пакрыўдзіла яго жыццё, чаму ён «лапсаваўся ўшчэнт». І чаму людзі праходзяць міма яго бяды, чаму яны толькі пасмейваюцца, калі ўбачаць яго п'яным, чаму развучыліся яны спачуваць...

Я не бачу ў такой логіцы пісьменніка ніякага «рэмаркізму», не бачу таго, што, як гаворыць Б. Бур'ян, «герой толькі пакутуе і ўсё». (Дарэчы, і ў Рэмарка герой не проста пакутуе. Ён змагаецца за сябе за сваю чалавечую годнасць, ён усімі сіламі імкнецца застацца чалавекам, нягледзячы ні на што. Аднак у Рэмарка ён — ахвяра, таму што жыве ў бесчалавечным свеце, таму што яму ніхто не спачувае).

Зыходзячы са свайго разумення «этычнай формулы спачування» і не лічачы яе актыўнай формай барацьбы за чалавека, Барыс Бур'ян прыходзіць да думкі, што такая пазіцыя пісьменніка не дае яму магчымасці прама і смела ставіць балючыя пытанні, звязаныя з нашым нядаўнім мінулым, што спачуванне перарастае ў нейкае «надкласавае» пачуццё і тады «...пратэст супраць парушэнняў натуральных норм чалавечых узаемаадносін непрыкметна... пераходзіць у абстрактны, завуаляваны пратэст **супраць** усялякіх грамадскіх абавязкаў...»

Так, ва ўсякім выпадку, я зразумеў Барыса Бур'яна і мне здаецца, што яго нельга зразумець інакш.

Я згодзен з тым, што пісаць пра тое, што перажыў народ пры Сталіне трэба і прама, так як напісаў А. Салжэніцын, але я лічу, што трэба пакінуць за пісьменнікам права пільна разглядаць і маральна-этычны бок гэтай тэмы. Я не ведаю, дзе Барыс Бур'ян ўбачыў пратэст супраць грамадскіх абавязкаў і дзе ён убачыў «чалавека ўвогуле». У тых апавяданнях Я. Брыля, аб якіх гаварыў Барыс Бур'ян, абстрактных людзей няма, няма іх і ў апавяданнях Б. Сачанкі, хоць можна пагадзіцца з крытыкам, што характары герояў Б. Сачанкі часам няпэўныя, неакрэсленыя, а нават і цьмяныя. Аднак я не знайшоў у іх пратэсту супраць грамадскіх абавязкаў, я знайшоў пошукі чалавекам самога сябе, пошукі чалавечай сутнасці, што асабліва відно ў героях Я. Брыля.

Хоць я ўвязаўся ў спрэчку па некаторых пытаннях жанра, у якім сам ніколі не працаваў, думаю, што агульныя, выказаныя тут меркаванні і думкі можна аднесці і да паэзіі. Перш за ўсё грамадзянская пазіцыя паэзіі—гэта несупынная атака на ўсе тыя ж пункты абароны, на апошнія акопы дагматыкаў і казённых душ. Баявыя патроны паэзіі нашых дзён — ідэі апошніх партыйных з'ездаў. Іменна гэтым растлумачыла нядаўна «Праўда» папулярнасць такіх паэтаў, як Яўген Еўтушэнка і Роберт Раждзественскі. Пакуль крытыка ламала коп'і вакол паэзіі Еўтушэнкі і ламала галаву, куды падзець Андрэя Вазнясенскага, яны і цэлы атрад іншых маладых паэтаў уварваліся ў самую гушчу жыцця і мільёны чытачоў пайшлі за імі, а не за перастраховачнай крытыкай.

Пад чырвоным сцягам вясны і маладосці рушылі ў паэзію і нашы, тутэйшыя хлопцы: Рыгор Барадулін, Алесь Наўроцкі, Уладзімір Караткевіч, Васіль Макарэвіч, Ігар Шклярэўскі, Генадзь Бураўкін. Яны таксама сяго-таго напалохалі сваёй няўрымслівасцю, задзірыстасцю, калючай вуглаватасцю. Можна ўспомніць патаемную, але даволі жорсткую баталію вакол кнігі Ігара Шклярэўскага, ратаваць якую ад перастрахоўшчыкаў прыйшлося нават кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў. І вось кніга выйшла, і з'явілася на яе добрых паўдзесятка рэцэнзій, і ўсе — станоўчыя. Цяпер смешна ўспамінаць недарэчныя доказы тых, хто сцвярджаў, што яна быццам бы шкодная.

Смешна таму, што па змесце свайму кніга гэтага маладога паэта даволі звычайная, яна не ставіць складаных грамадскіх пытанняў і менавіта ў гэтым яе самы значны недахоп. Аднак гэта свежая кніга, аўтара яе нельга абвінаваціць у сумным апісальніцтве, паэт шукае сваё слова і свае фарбы, свой малюнак верша.

Але не толькі ў грамадзянскай смеласці і навізне формы сіла і папулярнасць сучаснай паэзіі (што датычыць формы, то я асабіста глыбока перакананы ў тым, што і «пушкінскі» і «купалаўскі» верш яшчэ далёка не вычарпалі сябе. Артыкул Рыгора Бярозкіна «Свет Купалы» паказвае, між іншым, якая гэта акадэмія для паэта — купалаўская паэтыка).

Выключная сіла сучаснай паэзіі ў тым, што яна рашуча адмаўляецца ад апісальніцтва, ад паэтызмаў, што кожны сапраўдны верш — гэта згустак інтэлектуальнай энергіі, паэзія напружанай думкі. Паэзія зрабілася востра-канфліктнай. Толькі вучні і графаманы пішуць цяпер нейтральныя вершыкі пра тое, як «харошы, дужы, любы цалаваў дзяўчыну ў губы».

Што датычыць беларускай паэзіі, дык трэба дадаць яшчэ, што яна зняла нарэшце сялянскую хустку, і ад гэтага твар яе не страціў сваіх нацыянальных рысаў. Знікла толькі праставатасць, наіўная вясковасць яе, даволі смешная на фоне сучасных беларускіх гарадоў, вялікіх заводаў, на фоне атамнага рэактара Акадэміі навук БССР. Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што новае пакаленне паэтаў адмовілася ехаць на дзедавым кані. Яно зразумела, што змяніўся сам прынцып, сам падыход да мастацкага пазнання рэчаіснасці. Але вось якая супярэчнасць: маладой паэзіі, што вырастае на глебе новай рэчаіснасці, убірае ў сябе яе складанасць, яе паліфанію, даводзіцца пераадольваць такую косную сілу, як шырока распаўсюджаныя прывычныя густы. З гэтай прычыны падстрыжаны пад нуль паэт ідзе па зялёнай вуліцы, а як толькі трапіць у выдавецтва нехта, хто па сённяшняй модзе прычасаны, трэба клікаць на дапамогу самыя важкія аўтарытэты, каб яны ўзялі на сябе смеласць сказаць, што прычоска хоць нейкая і не такая, але хлопец, па ўсяму, відаць наш, савецкі.

Занадта асцярожныя людзі, якія ёсць і ў нашым выдавецтве, не хочуць або не могуць зразумець, што паэзія павінна, як самы чуйны сейсмограф, рэагаваць на самыя глыбінныя жыццёвыя зрухі, ставіць новыя грамадскія, маральныя, этычныя і палітычныя пытанні, выказваць новыя думкі і пачуцці, якія толькі што ўзніклі або ўзнікаюць і якія людзі самі не могуць часта выказаць, вытлумачыць, сфармуляваць, у тым ліку і тыя людзі, ад каго залежыць лёс той ці іншай паэтычнай кнігі. Трэба давяраць паэту як савецкаму грамадзяніну, давяраць яго сумленню, яго адданасці нашаму ладу, справе камунізма. Калі разведчыка пасылаюць на заданне, ніхто не зможа сказаць наперад, што ён сустрэне на сваім шляху, якія абставіны ўзнікнуць і як канкрэтна будзе ён дзейнічаць. Але яму вераць. Вераць у тое, што ён да апошняй кроплі крыві будзе біцца за сваіх. А хіба паэт не ў разведцы? Хіба ён не бачыць тое, чаго пакуль што яшчэ не бачаць астатнія (у тым ліку і самыя разумныя рэдактары). Дык давайце ж не будзем пільнаваць паэта на кожным кроку, калі ён шукае новыя сцежкі.

Праўда, трэба дадаць, што ў тым становішчы, калі людзі, чытачы, недаверліва, дрэнна слухаюць, нават добрых, смелых, цікавых паэтаў, вінаваты самі паэты. Яны міръацца з тым, што ў нас паэзія часта выкарыстоўваецца ў якасці затычкі для кадушкі; на розных вечарах і канферэнцыях паэтаў выпускаюць «пад заслону», калі «кадушка» поўная ўжо дакладамі і садакладамі, калі зала стамілася.

З зайздрасцю слухаеш расказы пра тое, як прымаюць вершы ў Маскве, пра натоўпы людзей на плошчы Маякоўскага, пра тое, як людзі літаральна б'юцца за білет на вечар паэзіі ў МДУ ці ў політэхнічным інстытуце. Што, гэта само зрабілася так? Не!

Паэты самі павінны пайсці ў мінскія вну, у рабочыя клубы, не чакаючы, пакуль нехта наладзіць «чарговае мерапрыемства» і «гарнірам» да яго заплануе чытанне вершаў. Трэба самім змагацца за чытача, ператварыць літаратурныя вечары не ў казённыя канцэрты, а ў спрэчкі з густамі той ці іншай аўдыторыі. Я не лічу ерэтычнай тую думку, што чытача яшчэ трэба ўзнімаць да разумення паэзіі, што не паэт павінен прыстасоўвацца да чытача, а наадварот — чытач абавязан дарасці да сапраўднага паэта. Гэтага не здарыцца да той пары, пакуль паэзія будзе «закускай» у канцэртных праграмах, а не асноўнай ежай на эстрадах і сцэнах.

Я адчуваю, што ў мяне атрымаўся занадта публіцыстычны артыкул. Але, перачытаўшы яго, думаю, што сказаў сёе-тое, што мае непасрэднае дачыненне да той размовы, якая пачалася ў «Літаратуры і мастацтве» пад назвай «Пісьменнік і час».

Няхай сабе Рыгор Барадулін і Васіль Макарэвіч шукаюць карнявыя рыфмы, няхай Анатоль Вялюгін дае ўзоры дакладнай, поўнай рыфмы, няхай Аркадзь Куляшоў вяртаецца да строгай формы санета, няхай вучыцца ў Буніна Барыс Сачанка, няхай Алесь Адамовіч непасрэдна ўвасабляе ў творы сваю канцэпцыю рамана — аснова поспехаў і іх, і ўсёй літаратуры ў захаванні вечнага агню праўды. Трэба, каб літаратура адлюстравала «грамадзянскую вайну» тэндэнцый і інтарэсаў, якія бушуюць у сучасным свеце, адлюстравала вострае сутыкненне старога і новага і ў нашым грамадстве. Тады яна дапаможа народу і партыі знайсці найбольш канструктыўнае вырашэнне сучасных праблем і наблізіць прыход таго дня, калі будзе

в каждом окне — по солнцу,
в каждой груди — по сердцу,
в каждой руке — по яблоку,
круглому, как земшар!

# ШУКАЙЦЕ ПАЭТЫЧНАЕ Ў БУДЗЁННЫМ

...Гэта былі самыя звычайныя нажы з цяжкімі і даўгімі тронкамі. Хлопцы, крутнуўшыся на месцы, з сілай шпурлялі іх у невысокі дашчаты плоцік. Рабілі яны гэта з вялікім усведамленнем уласнай годнасці.

Міма праходзілі людзі. Адны здзіўлена паглядалі на хлопцаў, другія праходзілі ўнурыўшыся: «гэта нас не датычыцца...» Але вось каля заўзятых «мятальшчыкаў» спыніўся чалавек гадоў пад сорак. Яго адносіны да таго, што ён убачыў, зусім здзівілі мяне. «Бяры правей, блазан!» — прагугнявіў ён, а яго азызлы твар засвяціўся амаль што сонечнай ухмылкай. Дзядзька ўсё больш падграваў хлопцаў, якія аж заходзіліся ў намаганні абавязкова пацэліць у шчыкеціну. Ім ужо хацелася дагадзіць гэтаму чалавеку, які звярнуў на іх увагу, стаў сведкам і нават удзельнікам дзіцячай «гульні». Ды ці была яна дзіцячай? Крыўдна за гэтых 14-гадовых хлопцаў, якія знаходзілі ў сваёй наіўнай забаўцы нешта адмысловае, рамантычнае.

Мне ўдалося пагутарыць з тымі хлопцамі — з Артурам і Генікам. Аказваецца, падлеткі незаўбаве праглядзелі амерыканскі баявік «Выдатная сямёрка». Не будзем гаварыць аб гэтым фільме. Аб ім добра сказаў пры сустрэчы з амерыканскімі журналістамі летам гэтага года М. С. Хрушчоў. Але пасля гутаркі з гэтымі мінскімі хлапчукамі мне падумалася аб тым, што мастацтва мае вельмі вялікі маральны аўтарытэт, яно можа пакалечыць душу, але і ўзняць чалавека на вышыню сапраўднай мужнасці, гераізму.

На полі бою ў 1941—44 гадах людзі знаходзілі ў загінуўшых савецкіх салдат сагрэтыя сэрцам мужныя радкі савецкай паэзіі, кнігі М. Шолахава і М. Астроўскага, якія былі захаваны пад простым бушлатам або шынялём, каля сэрца. Вобразы гэтых твораў натхнялі людзей на гераічнае, рашучае, смелае, бо яны авеяны рамантыкай эпохі, велічнага часу. Вось вам станоўчыя прыклады маральнага аўтарытэту мастацтва.

А што мы бачым у прыведзенай вышэй сцэне, які вынік дасць яна, што пасее добрага ў сэрцах двух хлапчукоў? І думаецца: трэба больш кніг сапраўдных, дзейсных, акрылёных. Такімі павінны быць творы для дзяцей.

Гераізацыя спраў савецкага чалавека — адказная задача для пісьменніка. Іменна пісьменнік у мастацкай форме вучыць адрозніваць сапраўдны гераізм ад уяўнага, захапленне здаровае, карыснае ад шкоднага, чужога, наноснага. Вялікую дапамогу ў фарміраванні здаровых эстэтычных густаў нароўні з іншымі жанрамі павінна адыграць прыгодніцкая кніга. Іх у нас яшчэ зусім мала. М. Горкі гаварыў, што прыродзе дзяцей уласціва імкненне да яркага, незвычайнага, гераічнага. Тым больш у прыгодніцкіх творах — тут сустрэнеш і прыўзнятасць, рамантычнасць падзей і ўслаўленне чалавечых мар і спраў.

І павінен дзейнічаць такі герой, каб мог «заразіць» чытача, натхніць яго на нешта добрае і карыснае, толькі не на бачанае мной, апісанае вышэй. Няхай мяне зразумеюць правільна: я не сцвярджаю, што для развіцця эстэтычнага здаровага густу абавязкова трэба чытаць толькі прыгодніцкія кнігі. Я пра тое, каб прыгодніцкі жанр спрыяў выхаванню добрага густу, каб ён натхняў на прыгожыя справы. Колькі сапраўды прыгожага абудзіць у чытача аповесць Я. Маўра «Палескія рабінзоны»! Але што можна пачарпнуць з такіх слабых у мастацкіх адносінах прыгодніцкіх кніг, як «Таямнічы надпіс» В. Зуба, «Каштанавы масквіч» Хв. Жычкі, «Пабярэжцы» М. Ваданосава, «Лань — рака лясная» А. Шашкова? Ці стаў хоць адзін герой з гэтых кніг добрым узорам для пераймання?

Мабыць, не варта зусім ганіць гэтыя творы, але ж занадта яны прыземленыя, няма ў іх той рамантычнай узнёсласці, да якой так прагавіты юны чытач. Героі А. Шашкова і М. Ваданосава не надзелены тымі яскравымі рысамі, якія далі б падставу гаварыць аб іх, як аб героях актыўных, сапраўды сучасных.

Мы не збіраліся ўзнімаць у гэтай заметцы нейкія праблемы. Проста хацелася выказацца за тое, каб у цэнтр узаемаадносін герояў пісьменнікі ставілі падзеі грамадска значныя, выхоўвалі ўменне бачыць незвычайнае ў будзённым, у тым, што ствараецца рукамі савецкага чалавека. Герой мастацкага твора павінен стаяць упоравень з героем нашага часу, і толькі тады ён зможа актыўна ўздзейнічаць на розум і эмоцыі чытача.

**Б. ЗУБКОЎСКІ,**
**настаўнік.**

Брэсцкая вобласць.

*Я люблю цябе, Мінск!*

2. Горад жыве, дыхае, працуе. Горад абслугоўвае пакупнікоў, развозіць пасажыраў, дае старт аэралайнерам, друкуе кнігі, варыць сталь. Мінск-працаўнік правёў праз свае цудоўныя вуліцы і плошчы чалавека з фотаапаратам вось сюды, у сталеліцэйны цэх нашай сучаснай нацыянальнай гордасці— Мінскага аўтамабільнага завода.

Сталеліцэйны цэх... Калі б раптам аднойчы тут апынуліся разам людзі самых разнастайных прафесій і творчых дыяпазонаў, то тут, перад гэтым цудам, усе яны пранікліся б аднолькавым пачуццём. Сталь ідзе! Вогненны дракон глыбока ўражвае, але і чалавек, што стаіць побач з мартэнаўскай печчу, ніколі не будзе здавацца маленькім і непрыкметным. Бо гэта ён тут — цэнтр усяго, ён — сіла думкі, волі, энергіі.

І нічога, што фотааб'ектыў не наблізіўся да твару сталявара Андрэя Мініча, не перадаў яго буйным планам. Што выказвае твар чалавека ў такую хвіліну, поўнасцю можа падказаць вам уласнае ўяўленне...

*Я люблю цябе, Мінск!*

3. І далей крочыць дзень па вуліцах горада...

Вось гэта, так сказаць, невялічкая бытавая сцэнка. Чымсьці крышку нагадвае яна кадр з італьянскіх неарэалістычных фільмаў. Быццам дзесьці на плошчы ў Мілане ці Венецыі сабраліся беспрацоўныя і на фоне чужых шыкоўных аўтамашын вядуць гаворку пра сваё жыццё-быццё. Не хвалюйцеся, мінскім таксістам беспрацоўе не пагражае. Гэта проста так, невялікі час «пік» для шафёраў таксі. Час, калі людзям пакуль што няма куды спяшацца.

Пачакайце да вечара. У тым, што мінскім «таксі» яшчэ вельмі далёка да «беспрацоўнасці», вы можаце пераканацца на ўласным вопыце. Будзеце спяшацца ў тэатр ці на канцэрт — спатрэбіцца таксі, і часам днём з агнём яго не зловіце.

# ХТО КАМПЛЕКТУЕ СЕЛЬСКУЮ БІБЛІЯТЭКУ?

З кожным годам расце колькасць бібліятэк Магілёўскай вобласці. А яшчэ хутчэй павялічваюцца іх кніжныя фонды. Калі гады тры—чатыры назад у кожнай сельскай бібліятэцы было дзве—чатыры тысячы кніг, то цяпер у сярэднім — шэсць тысяч. Нямала ёсць у вёсках і бібліятэк з кніжнымі фондамі ў 8—10 тысяч тамоў, а многія раённыя бібліятэкі маюць па 25—28 тысяч экземпляраў кніг. Яшчэ багацейшыя гарадскія бібліятэкі: у іх па 40—70 тысяч тамоў разнастайнай літаратуры.

Паляпшаецца становішча і ў калгасных бібліятэках. Напрыклад, сёлета ў Шклоўскім раёне ва ўсе семнаццаць калгасных бібліятэк неаднаразова паступалі навінкі палітычнай, мастацкай, сельскагаспадарчай і навукова-папулярнай літаратуры.

Кніжныя фонды выраслі не толькі колькасна, але і якасна. Асабліва гэта датычыцца сельскіх бібліятэк. Бібліятэчны калектар прысылае ім цяпер штомесяц літаратуру па самых разнастайных пытаннях: па тэхніцы, атэізму, а таксама грамадска-палітычную.

Паляпшаюцца справы і з прапагандай кнігі. У большасці бібліятэк вобласці арганізаваны свабодны доступ да кніжных паліц, працуюць калектывы грамадскіх кнiганошаў, лепшай стала наглядная агітацыя.

І ўсё ж у рабоце бібліятэк ёсць яшчэ і многа недахопаў, у першую чаргу ў камплектаванні бібліятэчных фондаў.

Работнікі сельскіх бібліятэк амаль цалкам даверыліся бібкалектару і працуюць па прынцыпу: што прышлюць, тое і добра. А ў мясцовых кнігарнях яны купляюць толькі кнігі мастацкай літаратуры, пераважна раманы. Што ж атрымліваецца? На першы погляд, бібкалектар шле многа кніг. Аднак з-пад яго ўвагі чамусьці выпадае сельскагаспадарчая літаратура. Аблкнігагандаль таксама скупіцца на яе. Вось і атрымліваецца, што ў сельскіх бібліятэках па сутнасці няма той літаратуры, якая ім вельмі патрэбна.

Многа хібаў і ў рабоце некаторых раённых бібліятэк. Напрыклад, у Клімавіцкай раённай бібліятэцы на кніжных паліцах — больш дваццаці тысяч тамоў. А многіх навінак не знойдзеш.

Аднойчы ў Клімавічы прыехаў паэт Аляксей Пысін. Бібліятэкары ледзь знайшлі (ды і то ў некага з чытачоў) адзін экземпляр яго зборніка вершаў «Сонечная паводка». Не знайшлося ў бібліятэцы і новых кніг іншых беларускіх пісьменнікаў.

Так здарылася не толькі таму, што работнікі бібліятэкі не імкнуліся папаўняць кніжнага фонду. Раённы аддзел культуры, якому каторы год не шанцуе на пастаяннага загадчыка, дрэнна фінансуе бібліятэку. Сёлета, напрыклад, бібліятэка месяцамі не атрымлівала на кнігі ні рубля. Значную суму грошай, прызначаных на набыццё кніг, райвыканком перадаў іншым арганізацыям.

Выклікае трывогу цяперашняе становішча з кніжнымі фондамі ў большасці клубных бібліятэк вобласці. Работнікі сельскіх клубаў, як правіла, набываюць кнігі ў мясцовых кнігарнях. Прычым адразу на ўсю наяўную суму. Не выпадкова таму ў многіх клубах няма матэрыялаў XXII з'езда КПСС, сакавіцкага Пленума ЦК КПСС, няма літаратуры аб перадавым вопыце ў сельскай гаспадарцы, а таксама многіх твораў мастацкай літаратуры.

Спашлёмся на прыклад Прусенскага клуба Касцюковіцкага раёна. Чытачы бібліятэкі гэтага сельскага клуба толькі сёлета ўпершыню змаглі пазнаёміцца з раманам В. Лаціса «Сын рыбака». А кнігі І. Шамякіна «Трывожнае шчасце» яны яшчэ і не бачылі. Матэрыялы XXII з'езда КПСС у клубе ёсць, але гэта ініцыятыва загадчыка клуба Г. Мурачовай.

А чаму б не сканцэнтраваць 40—50 працэнтаў сродкаў, якія асігнуюцца на кнігі для сельскіх клубаў, у бюджэце раённага аддзела культуры, як гэта зроблена для сельскіх бібліятэк? Вядома, гэта яшчэ не выхад са становішча, але камплектаванне клубных бібліятэк рабілася б значна лепш.

У многіх бібліятэках мала яшчэ звяртаюць увагі на запатрабаванні чытачоў, дрэнна выкарыстоўваюць дублетную літаратуру, абыякава адносяцца да кніжнага багацця, не ўсюды ёсць яшчэ аб'яднанні кнiганошаў.

Аб усім гэтым гаварылася на трохдзённым семінары работнікаў бібліятэк вобласці. Удзельнікі семінара праслухалі даклады дырэктара абласной бібліятэкі імя Ул. І. Леніна Н. Саўчанкі, загадчыка абласнога бібліятэчнага калектара В. Чайкоўскага, загадчыка Слаўгарадскай раённай бібліятэкі Г. Дзюндзікавай, бібліятэкара Крычаўскай раённай бібліятэкі Н. Чыгіловай, загадчыка Бабруйскай гарадской бібліятэкі імя А. Пушкіна В. Зорынай і іншых, якія абмяняліся вопытам работы па камплектаванню кніжных фондаў.

Прысутныя на семінары пазнаёміліся з работай абласнога бібкалектара, з навінкамі літаратуры, заказалі патрэбныя кнігі. Разам з членамі савета бібкалектара яны абмеркавалі планы выдавецтваў на 1963 год. Акрамя гэтага, удзельнікі семінара наведалі кнігарні горада, бібліятэкі, прысутнічалі на літаратурных і тэматычных вечарах.

Такія семінары мяркуецца правесці ў пачатку будучага года ва ўсіх раёнах вобласці.

**В. АРЦЕМ'ЕЎ.**

## Экскурсія ў Ленінград

Група работнікаў масавых бібліятэк Мінска наведала Ленінград і пазнаёмілася з работай бібліятэк горада. Беларускія культасветработнікі пабывалі ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Маякоўскага, бібліятэцы Ленгарвыканкома, масавай бібліятэцы Дзяржынскага раёна.

**Л. ФРЫД.**

ТЭАТР

# КАБ ІНШЫХ НАВУЧЫЦЬ...

**Георгій КОЛАС**

У адным з пісем Поля Элюара ёсць фраза: «Навучыся разумець тое, што ты чытаеш, каб навучыць таму ж і іншых».

Словы гэтыя, як мне здаецца, вельмі датычаць тэатра. Яго майстры — рэжысёры, артысты, афармiцелі — павінны перш за ўсё навучыцца самі як след разумець узятую да пастаноўкі п'есу, каб потым навучыць і гледачоў разумець яе па-сапраўднаму: значна глыбей, усебакова, эмацыянальна. Інакш навошта патрэбен тэатр? Хіба толькі, каб узнавіць літаратурны твор у жывых асобах?..

У Магілёўскім тэатры паставілі «Такое каханне» чэхаславацкага драматурга Паўла Кагоута. П'еса разумная, тонкая. Яна абышла шмат тэатраў нашай краіны. А зараз пачаўся «другі тур» у яе сцэнічнай біяграфіі — хто не паставіў раней, ставіць цяпер: статыстыка збораў паказала, што дарэмна яны абмінулі яе.

Статыстыка ў мастацтве мае свае асаблівасці. Успрынятая павярхоўна, яна можа часам стварыць уражанне, што твор, які карыстаецца поспехам, «самаігральны»: пакладзі яго на суфлёрскую будку, і ён загучыць, і поспех тэатру забяспечан. Так з п'есай Кагоута неаднойчы здаралася. Атрымоўвалася... ды, шчыра кажучы, нічога з таго не атрымоўвалася. Тэатры з расчараваннем здымалі спектакль з афішы.

У Магілёве п'есу не клалі на «суфлёрскую будку». Рэжысёр Марк Генін даў ёй сваё «прачытанне». А спектакль — хоць ты здымай яго з афішы — не карыстаецца поспехам.

Той-сёй у тэатры спрабаваў вінаваціць публіку. Маўляў, гэта вельмі складана, глядач не дарос.

Як быць? Дарошчваць, выхоўваць? Павесці растлумачальную работу? Але ў тэатры ведаюць — калі глядач неўзлюбіў пастаноўку, дык колькі яму ні тлумач, колькі ні праводзь сустрэч і канферэнцый, нічога не атрымаецца.

Дык што ж адбылося з «Такім каханнем» у Магілёве?

Адбылося самае прыкрае: тэатр ( у першую чаргу рэжысёр) не зразумеў п'есу. Марк Генін, хацеў ён таго ці не, надаў ёй самую непажаданую трактоўку.

Вядома, што Кагоута папракалі ў фрэйдысцкім уплыве: нібыта лёс яго гераіні Ліды Мацісавай вырашае канфлікт «лібідо» — непрымірымая супярэчнасць двух пачаткаў у асобе чалавека — свядомасці і палавога інстынкту.

На першы погляд, у п'есе маюцца немалыя падставы так трактаваць яе. І, заўважым, фільм, зроблены па п'есе на радзіме Кагоута, меў менавіта такое гучанне. На нашых экранах ён не прыжыўся, прайшоў непрыкметна. А п'еса — жыла і жыве.

Лепшыя пастаноўкі (перш за ўсё у Гродзенскім тэатры і таксама ў Маскоўскім імя К. С. Станіслаўскага) вабілі гледача, як актыўны мастацкі пошук у распрацоўцы надзённых грамадзянскіх пытанняў. І тое, што п'еса з'явілася на свет пасля XX з'езда КПСС, вызначала пазіцыю гэтых тэатраў да яе. Праз яе тэатры гаварылі аб неабходнасці беражлівага, уважлівага стаўлення да чалавека. А праблемы маралі вырашаліся ў плане марксавай думкі аб тым, што грамадства будучыні выпрацуе сваю, новую, ні на што папярэдняе не падобную, вольную мараль. Пры чым жа тут і фрэйдызм, і «лібідо»?

У спектаклі Магілёўскага тэатра пануе гвалтоўная тэма лёсу.

Значную ролю адыгрывае тут музыка. Л. Караганаў абраў для музычнага афармлення Пятую сімфонію Бетховена, з выкарыстаннем адной толькі тэмы, зрабіўшы яе лейтматывам спектакля: ва ўсіх найбольш вострых, паваротных момантах гучыць бетховенскае «Хто гэта там? — а, гэта лёс!»

Тое ж робіць рэжысёр і ў дачыненні амаль да ўсіх рэтраспекцыйных сцэн п'есы. У Кагоута яны існуюць для таго, каб даць магчымасць і героям і нам, гледачам, больш пільна прасачыць абставіны, матывы і вынікі чалавечых учынкаў. У спектаклі ж яны гучаць як пацвярджэнне таму, што інакш адбыцца нішто не магло: зноў такі гэта — лёс!

Рэжысёр паслядоўны ў сваім заблуджэнні да смешнай наіўнасці: нават вагон, пляцоўка якога стала для Ліды Мацісавай апошняй жыццёвай пляцоўкай, пранумараваны ў спектаклі «злавеснаю» лічбай — 13.

Што ж гаварыць пра акцёраў, якія трапілі ў клешчы гэтай наскрозь ілжывай канцэпцыі?

Можна толькі паспачуваць выканаўцы цэнтральнай ролі В. Кабатнікавай. Там-сям яна спрабуе прыўзняцца над змрочнай асуджанасцю, але яе намаганні патанаюць у акордах музыкі, ва ўсёй атмасферы спектакля.

У Кагоута людзі, з якімі перакрыжаваўся лёс Ліды, — складаныя, значныя натуры. А на магілёўскай сцэне — дробязь. Пётр Петрус (А. Рудакоў) — дробны перастрахоўшчык. Мілан Сцібар (В. Егуноў )— маленькі эгаіст. Маці Сцібара (Ю. Гальперына) — проста мяшчанка, нават з прыкметамі мяшчанства даўно мінулых гадоў. Бадай, толькі Лідзе Петрусавай трошкі пашанцавала — З. Малчанава захавала ў гэтай ролі яе драматычную строгасць, маштаб (хоць і тут ёсць пагроза прымітыўнай «выкрывальнасці», не-не, ды і прадэманструе актрыса нейкі антарктычны холад душы гераіні).

Зусім не знойдзена ў спектаклі месца Тошака (С. Яворскі) і Майкі Грабетавай (Р. Сакалова). І толькі адзіная роля — Чалавек у мантыі ў выкананні М. Радзіёнава атрымала тут, хоць і паасобнае, аднак цікавае, моцнае, свежае вырашэнне. М. Радзіёнаў усёю сваёй істотай паўстае супраць бесчалавечнасці, антыгуманнасці. Ён вядзе суд сумлення на вялікім публіцыстычным пафасе. Але... супраць каго гэты пафас? Супраць лёсу?

У Кагоута не лёс, а людзі, накшталт Тошака і Майкі Грабетавай, — галоўныя віноўнікі трагічных падзей. Гэта на іх «устаноўкі» азіраліся, вымушаны былі азірацца героі. Пра іх можна выказацца эпіграфам да рамана Бруно Ясенскага «Змова раўнадушных»: з іх маўклівай згоды існуюць на свеце здрада і забойства. А на магілёўскай сцэне ў здрадзе каханню, у забойстве кахання абвінавацілі лёс... А глядач, дзякуй яму за тое,—не згадзіўся з такім прысудам і вынес спектаклю свой маўклівы прысуд...

Глядач нават з большай прыхільнасцю сустрэў меладраму

